# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

№12



N 12. 1936



## ПЕСЕНЬКА ПРА ЁЛКУ

У цёмным лесе ёлачка
Маленькая расла,
Зімой і летам стройная
Зялёная была.

Мяцеліца ёй песеньку
Спявала: баю-бай...
Мароз абсыпаў інеем:
Глядзі, не замярзай...

Труслівы зайчык шэранькі
Пад ёлачкай скакаў.
Часамі воўк—сярдзіты звер—
Ля ёлкі прабягаў.

Цяпер сюды ты, ёлачка,
На свята к нам прышла,
І многа, многа радасці
Рэбятам прынясла.

# Зіма

**АЛЕКСАНДР СЕРГЕЕВІЧ ПУШКІН**

Зіма!.. Араты урачыста
Дарогу едзе абнавіць;
Яго канёк па снезе чыстым
Трушком размерана бяжыць;
Ляціць кібітка удалая
І снег пушысты уздымае;
Фурман сядзіць на передку
Ў падпаясаным кажушку.
Вось дваравы хлапчук гуляе,
Ён Жучку ў санкі пасадзіў;
Сябе ў каня ператварыў;
Яго ўжо й пальчык замярзае,
Яму і смешна і баліць,
А маці праз акно крычыць.




*Апавяданне*

*М. ГОРКАГА*

Аднойчы маленькі хлопчык Яўсейка,— вельмі-ж добры чалавек!—седзячы на беразе мора, вудзіў рыбу. Гэта вельмі невясёлая работа.

Дзень быў гарачы, стаў Яўсейка ад сумоты драмаць і—бух скінуўся ў ваду. Скінуўся, але нічога, не спалохаўся і плыве ціхенька, а потым даў нырца і зараз-жа апынуўся на дне мора.

Сеў на камень, мякка пакрыты рыхлымі водараслямі, глядзіць вакол—вельмі добра!

Паўзе, не спяшаючыся, чырвоная морская звязда, важна ходзяць па каменнях вусатыя мангусты, бокам паўзе краб; усюды па каменнях нібы буйныя вішні рассыпаны акцініі, і ўсюды безліч усялякіх цікавых рэчаў: вось цвітуць-калышуцца морскія ліліі, мільгаюць нібы мухі быстрыя кравёткі, вось цягнецца морская чарапаха і над яе цяжкім панцырам гуляюць дзве маленькія зялёныя рыбкі, зусім як матылькі ў паветры, і вось па вялікіх каменнях вязе сваю ракавіну рак-адшэльнік. Яўсейка, гледзячы на яго, нават верш успомніў:

— Дом,—не павозка ў дзядзькі ў Якава...

І раптам чуе над галавою ў яго нібы клярнэт запішчаў:

— Вы хто такі?

Глядзіць:—над галавою ў яго велізарнейшая рыба, з шыза-срэбнай лускою, вытрашчыла вочы і, выскаліўшы зубы, прыемна ўсміхаецца, нібы яе ўжо сасмажылі і яна ляжыць на талерцы сярод стала.

— Гэта вы гаворыце?—запытаў Яўсей.

— Я-а...

Здзівіўся Яўсейка, і сярдзіта пытаецца:

—Як-жа гэта вы? Рыбы-ж не гавораць!

А сам думае:

„Вось дык раз!—нямецкую я зусім не разумею, а рыбіну мову адразу зразумеў!“

Вялікая-ж рыба прыстае да яго:

— Адкуль гэта вы узялі, што ўсе рыбы нямыя?

— Тата сказаў.

— Што такое тата?

— Так сабе... Падобны на мяне, толькі—большы.

— А ён рыбу есць?

Тут Яўсейка спалохаўся: скажы вось ёй, што есць. Узняў вочы ўверх, бачыць скрозь ваду мутна зялёнае неба і сонца ў ім, жоўтае, як медны паднос; падумаў хлопчык і сказаў няпраўду:

— Не, ён не есць рыбу, касцістая вельмі...

„Трэба змяніць гаворку“, здагадаўся Яўсей і далікатна пытаецца:

— Вы былі ў нас наверсе?

— Вельмі мне патрэбна!—сярдзіта фыркнула рыба,—там дыхаць няма чым...

— Затое—мухі якія...

Рыба праплыла вакол яго, спынілася проста супроць носа, ды раптам і кажа:

— Мух-хі? А вы чаго сюды прыплылі?

„Ну, пачынаецца!—падумаў Яўсейка,— з'есць яна мяне, дурніца!“

І, нібыта бесклапотна, адказаў:

— Так сабе, гуляю.

— Гм?—зноў фыркнула рыба.—А, можа, вы ўжо тапелец?

— Вось ящчэ!—пакрыўджана крыкнуў хлопчык,—нікольki нават! Я, вось, зараз устану і...

Паспрабаваў устаць, а не можа: нібы яго цяжкой коўдрай накрылі,—не павярнуцца, не паварушыцца.

„Зараз пачну плакаць",—падумаў ён, але ў той-жа час зразумеў што плач не плач, а ў вадзе слёз не відаць, і парашыў, што не варта плакаць,—можа як-небудзь іначай удасца выкруціцца з гэтай непрыемнай гісторыі.

А навокал—бацюшкі!—сабралася розных морскіх жыхароў—ліку няма!

На нагу ўзлазіць галатурыя, падобная на дрэнна нарысаванае парася. Дрыжыць перад носам морскі пузыр, надзімаецца, пыхкае, дакарае Яўсейку:

— Прыгож-прыгож! Ні рак, ні рыба, ні малюск, ай-яй-яй!

Праплыла міма сепія, зусім, як мокрая насавая хустачка.

А навокала ў вадзе павіслі рыбы—мноства!

„Дурніцы"!—пакрыўджана думае Яўсейка і робіць такі выгляд, нібы ён нічога не чуе, нават хацеў бескла-потна пасвістаць, але выявілася, што нельга, вада лезе ў рот, нібы корак.

А гаваркая рыба ўсё пытаецца ў яго:

— Падабаецца вам у нас?

— Не... хаця—так, падабаецца... у мяне дома... таксама вельмі добра,—адказаў Яўсей і зноў спалохаўся: „Бацюшкі, што я кажу? Раптам яна ўзлуецца і пачнуць яны мяне есці..."

Але ўголас кажа:

— Давайце як-небудзь гуляць, а то мне сумна.

Гэта вельмі спадабалася гаваркой рыбе, яна засмяялася, разявіўшы круглы рот так, што сталі відаць ружовыя жабры, віляе хвастом, блішчыць вострымі зубамі і старэчым голасам крычыць:

— Гэта добра—пагуляць! Гэта вельмі добра—пагуляць.

— Плывем наверх!—прапанаваў Яўсей.

— Ну што-ж! Плывем!—сказала рыба, перавярнуўшыся галавою ўверх, а Яўсей зара-жа цап яе за жабры, і крычыць:

— Я гатоў!

„Вось толькі-б яна мяне крышку падцягнула наверх, а там ужо я вынырну"

Паплыла рыба, нібы танцуючы. Чым вышэй, тым хутчэй і лягчэй, і раптам Яўсейка адчуў, што галава яго выскачыла наверх.

— Ой!



Глядзіць, ясны дзень, сонца гуляе на вадзе, зялёная вада ўдараецца аб бераг, шуміць, спявае. Яўсейкава вудзільна плавае ў моры, далёка ад берагу, а сам ён сядзіць на тым-жа камені, з якога скінуўся, і ўжо ўвесь сухі.

— Ух!—сказаў ён, усміхаючыся сонцу,—вось я і вынырнуў.



# ПАЛЯВАННЕ НА ЦЮЛЕНЯЎ

*Апавяданне А. Міронака*
*Рысункі В. Цixaновіча*

I

Бацька разбудзіў Сцёпу досвіта. Зусім не хацелася яшчэ ўставаць, і самі па сабе міжвольна зліпаліся вочы. Але бацька не чакаў:

— Ты доўга не марудзь,—сказаў ён.

Сцёпа адкінуў коўдру і сеў на пасцель. „Трэба адзявацца хутчэй,—падумаў ён.— Бацька чакаць не будзе, адзін паедзе“...

Трывога Сцёпава была недарэмнай. Ужо не раз упрошваў ён бацьку ўзяць яго на зверабойку. Стары зверабой Сымон Ягоравіч Федасееў часта расказваў сыну пра цюленевы промысел, пра капітанаў Вароніна і Хлебнікава, пра ледаколы „Седов“ і „Малыгин“. Але на ўсе Сцёпавы просьбы бацька адказваў:

— Малы яшчэ. Падрасцеш—наездзішся.

І вось цяпер Сцёпава жаданне збылося...

Праз поўгадзіны яны вышлі з хаты. Ноч была зорная, ветраная і сырая. Неўзабаве Федасеевы далучыліся да вялікай групы зверабояў. Гэта былі жыхары аднаго калгаса, з паморскага паселішча Захрыбетнае.

Моўчкі, расцягнуўшыся доўгім ланцужком, зверабоі рушылі к мору. Вільготны і халодны вецер балюча шчыпаў Сцёпаў твар. Навокал расцілаўся снег, які ў цемені здаваўся шэрым. Толькі ўнізе, каля гары, ярка гарэлі агні ледакола. Сцёпа ўжо ведаў, што гэта „Седов“, які прышоў па зверабояў.

Хутка дабраўшыся да ледакола, людзі ўзлезлі на борт яго.

II

Кожны год, у лютым, з Архангельска і Мурманска ў Белае мора адыходзяць ледаколы „Седов“ „Сибиряков“, „Малыгин“, „Садко“ і „Русанов“. Узяўшы з паморскіх паселішчаў зверабояў, яны адпраўляюцца на промысел грэнландскіх цюленяў. Паморы называюць цюленя „зверам“. Гэты бяскрыўдны, але надта каштоўны звер у другой палавіне зімы велізарнымі чародамі прыплывае ў беламорскія воды. За два месяцы—люты і сакавік—кожны ледакол забівае больш як па дваццаць тысяч цюленяў. Цюленевыя скуры ідуць на выраб: з іх шыюць цёплую зімовую вопратку. Тоўстае сала цюленяў,ператопленае на тлустасць, патрэбна для прамысловасці.

... Да залежкі звера „Седов“ падплыў на трэці дзень раніцай. Перад гэтым лётчык Бабушкін паляцеў на разведку і па радыё паведаміў ледаколу месца, дзе размясцілася цюленевае стада. Авіяразведка шмат памагала прамыслоўцам у іх труднай рабоце.

Да цюленяў ледакол падкрадваўся па-

вольна і асцярожна. На палубе яго пастроіліся стралкі, адзетыя ў белыя халаты. Сцёпа ведаў, што гэта—„белава“: белыя халаты, зліваючыся з колерам снегу, давалі магчымасць стралкам блізка падпаўзці да цюленяў і меткімі кулямі ўкладваць іх на лёд. Зверы чулі стрэлы, але не бачылі людзей і таму не баяліся іх. Паляўнічыя, стараючыся быць з падветранага боку (каб сваім вострым нюхам звер не пачуў паху чалавека), акружалі залежку, адразаючы цюленям шлях да вады.

Раптам наперадзе, на самым краі вялікай проламкі, на ўвесь рост устаў чалавек. Ён моцна крыкнуў, і на ногі паўсхопліваліся ўсе стралкі. Ад ледакола, крычучы і размахваючы баграмі, бегла шмат людзей. Стралкі хутка знялі непатрэбныя цяпер халаты. У іхніх руках заместа вінтовак з'явіліся багры на кароткіх дзяржаннях, да гэтага часу схаваныя пад халатамі. Паляўнічыя цеснай сцяной акружылі цюленяў. Яны баграмі пачалі біць звяроў па галовах. У адрозненне ад „белавы“—гэтыя паляўнічыя называюцца „чарнава“.

Праз гадзіну ўсё было скончана. На белым ледзяным полі ляжала шмат забітых цюленяў. Зверабоі спрытна здымалі з іх скуры.

Сцёпа не заўважыў, як падкраўся змрок.



*Яны баграмі пачалі біць звяроў.*

Ён старанна дапамагаў паляўнічым збіраць скуры. Стомлены, але горды, адчуваючы сябе дарослым зверабоем, ён разам з усімі вярнуўся на ледакол.

III

З кожным днём промысел падабаўся Сцёпу ўсё больш і больш. Хутка ён стаў ужо разам са стралкамі адным з першых падкрадвацца да залежкаў. А калі ішла „чарнава“, Сцёпа таксама біў звера багром.

Калі ў канцы сакавіка „Седов“, нагружаны здабычай, сабраўся адыходзіць у Мурманск, Сцёпу стала сумна. Ён з жалем глядзеў на ільды, на бясконцы прастор мора. „Шкада,—думаў ён,—ехаць адсюль“.

Раніцай, у дзень адыхода, „Седов“ падышоў да апошняй залежкі. Тут было некалькі тысяч цюленяў: яны ляжалі на велізарнай плошчы ільда. Капітан Варонін ускарабкаўся на мачту—у наглядальны пункт. Ён доўга глядзеў праз бінокль на цюленяў, а потым крыкнуў:

— Канца не відаць ім. Трэба выклікаць на дапамогу другія ледаколы.

Радыст паведаміў другім караблям, і хутка да залежкі падышлі „Сибиряков“ і „Малыгин“.

Пачалося паляванне. Яшчэ ў пачатку промысла каманды ледаколаў заключылі паміж сабой умову на спаборніцтва. Усе яны канчалі промысел, і вось гэта апошняе паляванне вырашала,—хто-ж выйдзе пераможцам з спаборніцтва? „Седовцы“ ішлі дружнай сцяной, яны падахвочвалі адзін аднаго. Пад канец дня Сцёпа з радасцю заўважыў, што перамога застаецца на іхнім баку.

Толькі надыход вечара спыніў паляванне. На лёдзе ляжалі груды звярыных скур: іх не паспелі пазбіраць на ледакол. Агні караблёў паблісквалі ў цемені далёка на гарызонце. Невялікімі групамі стомленыя людзі пацягнуліся да сваіх ледаколаў.

Густая паўночная ноч хутка накрыла мора. Лёд пад нагамі адразу стаў незнаёмым і вельмі небяспечным. Узняўся вецер, і ільдзіны, паскрыпваючы, захісталіся пад нагамі.

Сцёпа зразумеў, што дабрацца да карабля ў гэтую ноч не ўдасца. Ён крыкнуў, і побач адгукнуліся другія галасы. Неўзабаве ён наткнуўся на трох „Седоўцаў".

— Блудзіш?—спытаў яго адзін, і Сцёпа пазнаў у ім зверабоя Хабарава. Яму адразу стала лягчэй і нібы цяплей.

— Ісці цяжка,—адказаў Сцёпа.—Лёд варушыцца пад нагамі. І не відаць нічога.

— А мы і не пойдзем,—спакойна сказаў Хабараў —Перачакаем тут да раніцы.

Зрабіўшы з багроў аснову палаткі, зверабоі накрылі яе цяжкімі скурамі цюленяў. Скурамі яны заслалі і лёд у сярэдзіне палаткі. Забраўшыся ў свой маленькі прытулак, яны пераканаліся, што тут зусім не дрэнна; у палатку не праходзіў ледзяны вецер, тут было цеплавата і нават утульна. Цесна прытуліўшыся адзін да аднаго, стомленыя зверабоі хутка заснулі цяжкім сном. Не мог заснуць толькі Сцёпа: ён пільна ўслухоўваўся ў завыванні ветру, спадзяючыся ўлавіць у ім гудок ледакола. З непрывычкі начлег на ільдзіне здаваўся страшным. Навокал ноч, бязлюддзе, а пад нагамі, пад хрупкай ільдзінай—халоднае морскае бяздонне. Думаючы пра гэта, Сцёпа адчуваў, як па спіне яго бегаюць мурашкі ад страху.

Сцёпа не памятаў, як ён задрамаў. Здалося толькі заплюшчыў вочы, як раптам рэзка скаланулася і захісталася ільдзіна. Ён паспрабаваў усхапіцца на ногі, але ад штуршка абваліўся верх палаткі і прыціснуў яго.

— Лёд трэснуў!—пачуў ён глухі і далёкі голас Хабарава.—Ратуйцеся!

Скінуўшы скуры, Сцёпа ўстаў. Моцны вецер ледзь не збіў яго з ног. Навокал



*— Знайшоў!— закрычаў Сцёпа.*

стаяла густая чарната ночы. Ільдзіна хісталася пад нагамі і недзе зусім блізка плясκалася вада. Здалёк, прабіваючыся скрозь вецер, даляцеў нечый крык. Сцёпа прысеў ад страху. І раптам зразумеў, што ён адзін астаўся на маленькай ільдзінцы, адарванай ветрам ад ледзянога поля.

„Загінуў!“—мільганула думка. Ён паспрабаваў крыкнуць, але з горла вырвалася толькі слабое прыдушанае хрыпенне.

Трохі счакаўшы, Сцёпа пачаў супакойвацца. Самі па сабе ўспомніліся бацькавы апавяданні пра тое, як на ільдзінах у мора заносіла зверабояў.

„І бадай заўсёды іх выратоўвалі,—падумаў ён,—выратуюць і мяне“. Бачачы, што хвалі кожны момант могуць перакуліць яго ільдзіну, Сцёпа пастараўся лепш умасціцца на ёй. Ён скінуў у ваду лішнія скуры і ад гэтага стала лягчэй ільдзіне. Потым, залезшы ў кучу пакінутых скур, ён адну нацягнуў на сябе. Стала цяплей.

На світанні Сцёпа зноў задрамаў. Ён бачыў у сне сваю ласкавую маці, якая дакарала яго за неасцярожнасць. Бацька хлопаў яго па плячы і гаварыў:

— Ну, цяпер ты сапраўдны памор: па моры на ільдзіне ездзіў!

Разбудзіў яго гучны рокат матора. Сцёпа радасна ўсхапіўся на ногі, але ад моцнага штуршка ільдзіна крута нахілілася і ён ледзь не шлёпнуўся ў ваду. Навокал расцілалася шэрае мора з рэдкімі ільдзінкамі. Па моры хадзілі невялікія хвалі.

— Знайшоў!—закрычаў Сцёпа і, каб не перакуліць ільдзіну, стаў на калені.—Давай, давай сюды, эй, самалёт!

Нібы пачуўшы яго голас, самалёт павярнуў і нізка паляцеў над ільдзінай. З кабіны паказаўся чалавек у шлёме. Ён махаў Сцёпу белай хустачкай.

4.

На ледаколе разам з бацькам Сцёпу сустрэў Хабараў. Ён моўчкі паціснуў яму рукі і адышоўся ўбок. Капітан Воронін усміхнуўся і сказаў толькі адно слова:

— Малайчына!

Бацька не гаварыў нічога, але ў вачах яго Сцёпа бачыў ласку і гордасць.

Праз гадзіну „Седов“ поўным ходам паплыў у Мурманск. Сцёпа глядзеў на мора і ўспамінаў ноч, праведзеную на ільдзіне.






*Казка П. ШАСТАКОВА*)*

*Рысункі К. ГЕДДЫ*

Вось назаўтра раніцою
Шэры воўк з кумой-лісою
Падыходзяць да асіны...
Тут, пусціўшы з роту сліну,
Воўк зароў сярдзіта:—„Злазь!“
Ды хвастом па дрэву—бразь!
Чуе дзяцел, што бяда,
Спрытна выскачыў з гнязда.
Воўк страшэнна зноў зароў:—
— Будзе шмат з асіны дроў!
Набліжаецца зіма,
Дроў ні трэсачкі няма...
Вось асіну як завалім,
Добра печкі мы напалім!..
Памяркуй як след сама
І цягні пілу, кума!..

У суседкі, у лісіцы,
Бедны дзяцел стаў прасіцца:
— Пашкадуйце маіх дзетак,
Не губіце малалетак.
У лісічкі, у суседкі
І сваё-ж малыя дзеткі!..
А на дровы ёсць бярозы,
Лепш сагрэюць ад марозу...
А лісіца мітусіцца—
Як да дзятла падмасціцца:
— Памагчы табе я рада,
Вось табе, сусед, парада:
Дзетак трэба здаць у людзі,
А то з іх дабра не будзе.
Выйдуць з іх там сталяры,
Хочаш—выйдуць цесляры,
Бандары, страпухі, прачкі,
Муляры, шаўцы і швачкі.
Прынясуць дабра па меху
Бацьку з маткай на пацеху...
У мяне знаёмых шмат—
Я прыстрою дзятлянят.
Не трымай, аддай, аддай!



* Канец. Пачатак гл. у № 11.

На адным іх мне скідай...
Не захочаш мне аддаць,
Пасля будзеш шкадаваць.—
Застагнала аж асіна,
Калі дзяцел скінуў сына.
— На, суседачка, бяры,
Выйдзе хай у бандары...
А лісіца хап ды ў куст,
І адтуль пачуўся хруст...
Аж падскочыў воўк ад злосці:
— Ты-ж, кума, пакінь хоць косці!..
Застагнала зноў асіна:
— Згубіў дзяцел, згубіў сына...
Адчуў дзяцел тут абразу,
Зразумеў усё адразу—
І лісіцыну параду
І ваўкову тую здраду...
За вялікі боль, за страту
Парашыў ён даць адплату.
Дзятла крыллі ўверх махнулі,
Потым раптам зверху куляй
Шась! у цёмную пячэру,
У лісіцыну кватэру...
Нарабіў там гвалту, піску:
— Ну-ж, падзякую я ліску!
І лісёнку скок на лоб,
Толькі крыллямі—лоп, лоп!
— Ах, гадзёныш, ах, блазнюк!
Вось табе! Стук, стук, стук, стук!
Раптам воўк бяжыць з лісіцай.
Воўк як крыкнуў—бач, сястрыца!
А лісіца ў лапы сук
Ды заместа дзятла— стук!
У лісёнка. Ну, а дзяцел
Час дарэмна тут не траціў,
І не думаючы многа,
На лісёнка ён другога
Скокнуў смела, як на сук,
Ды у лоб лісёнка—стук!
Ахапіў лісіцу жах
І ваўку таксама страх...
Зноў лісіца дзятла—бах
І... няўдалы зноў замах...
Дзяцел жыў—лісёнку смерць!
Дзяцел скокнуў—круць ды верць —
І па трэцім—стук, стук, стук!
Тут і трэцяму каюк!
А лісіца мітусіцца,
Нібы цяжкі сон ёй сніцца...
Лісяняты мёртвы ўсе,
Дзяцел сеў на лоб лісе
І між воч яе затоўк.

— Ну, ратуй лісіцу, воўк!
Воўк дубіну ў лапы згроб,
Ды куме як ахне ў лоб—
— Гах!
Ну, а дзяцел не прамах:
Ён на лоб ваўку ускочыў
І давай дзяўбці у вочы.
Воўк як вырвецца з нары,
Як памчыцца па бары!..
Зашумеў суседні гай:
Дай, дай, дай!.. дай, дай, дай!..
У-лю-лю-лю, у-лю-лю!..
Слава дзятлу-кавалю!
Падляцеў адважны дрозд,
Ушчыпнуў ваўка за хвост:
Чок, чок, чок!
Пок, пок, пок!
Вось табе і мой шчыпок!
Наляцелі вераб'і:—
— Бі, ваўка!
Бі! бі! бі!
Падляцела і варона:
— Не чакай, воўк, абароны!
Каррр, каррр, каррр!!!
Жар, жар, жар!
Закрычаў з бярозы шпак:
— Так і трэба!
Так! так! так!
Праз гушчары, праз балоты,
Цераз пні, цераз калоды,
Воўк імчаўся на ўвесь дух
Ды аб пень з разгону—бух!
Тут і выпрастаў ён ногі,
Не дабегшы да бярлогі...





# ДЗЕ РАКІ ЗІМУЮЦЬ

Апавяданне В. Біанкі

Рысункі В. Курдова

У кухні на табурэтцы стаяла плоская карзіна, на пліце—каструля, на стале—вялікая белая талерка. У карзіне былі ракі, у каструлі быў вар з кропам і соллю, а на талерцы нічога не было.

Увайшла гаспадыня і пачала:

раз—апусціла руку ў карзіну і схапіла рака ўпоперак за спіну;

два—кінула рака ў каструлю, пачакала пакуль ён зварыцца, і—

тры—пераклала рака лыжкай з каструлі на талерку.

І пайшло, і пайшло!

Раз—чорны рак, схоплены ўпоперак за спіну, сярдзіта варушыў вусамі, раскрываў клешні і хлопаў хвастом;

два—рак апынаўся ў гарачай вадзе, пераставаў варушыцца і чырванеў;

тры—чырвоны рак клаўся на талерку, ляжаў нерухома, і ад яго ішла пара.

Раз—два—тры, раз—два—тры,—у карзіне аставалася ўсё меней чорных ракаў, вар у каструлі кіпеў і бурбаліў, а на белай талерцы расла гара чырвоных ракаў.

І вось астаўся ў карзіне адзін апошні рак.

Раз—і гаспадыня схапіла яго пальцамі ўпоперак за спіну.

У гэты час ёй крыкнулі штосьці з сталовай.

— Нясу, нясу,—апошні!—адказала гаспадыня—і пераблытала:

два—кінула чорнага рака на талерку, пачакала крыху, падчапіла лыжкай з талеркі чырвонага рака і—

тры—апусціла яго ў вар.

Чырвонаму раку было ўсёроўна, дзе ляжаць—у гарачай каструлі ці на халоднай талерцы. Чорнаму раку зусім не хацелася ў каструлю; не хацелася яму ляжаць і на талерцы. Больш за ўсё на свеце яму хацелася туды, дзе ракі зімуюць і—доўга не думаючы—ён пачаў сваё падарожжа: задам, задам, далей ад бяды.

Ён апынуўся на гары нерухомых чырвоных ракаў і залез пад іх.

Гаспадыня пасыпала на ракаў кропу і падала талерку на стол.

Белая талерка з чырвонымі ракамі і зялёным кропам выглядала вельмі прыгожа. Ракі былі смачныя. Госці былі галодныя. Гаспадыня была занята. І ніхто не заўважыў, як чорны рак пераваліўся з талеркі на стол і задам, задам падпоўз пад міску, задам. задам дапоўз да самага краю стала.

А пад сталом сядзела кацянё і чакала, ці не перападзе яму чаго-небудзь з гаспадарскага стала. Раптам—гоп!—стукнуўся перад ім хтосьці чорны, вусаты.

Кацянё не ведала, што гэта рак, думала—вялікі чорны таракан і штурханула яго носам.

Рак падаўся назад.

Кацянё паварушыла яго лапкай. Рак падняў клешні.

Кацянё парашыла, што з ім займацца не варта, адвярнулася і закранула яго хвастом.

А рак хоп!—і заціснуў яму клешняю кончык хваста.

Што тут з кацянём стала! Мяў!—яно скокнула на стул. Мяў!—са стула на стол. Мяў!—са стала на падаконнік. Мяў!—і выскачыла на двор.

— Трымай, трымай, шалёнае!—крычалі госьці.

Але кацянё віхрам паляцела праз двор, а потым цераз плот ды ў сад. У садзе была сажалка, і кацянё, напэўна, звалілася-б у ваду, калі-б рак не рашчаміў клешні і не выпусціў яго хваста.

Кацянё завярнулася назад і наўгалоп паляцела дамоў. Сажалка была маленькая, уся зарасла травою і тванню. Жылі ў ёй гультаяватыя, хвастатыя трытоны, ды карасікі, ды смаўжы. Жыццё ў іх было невясёлае, заўсёды ўсё адно і тое-ж. Трытоны плавалі ўверх і ўніз, карасікі плавалі ўзад і ўперад, смаўжы поўзалі па траве—адзін дзень наверх паўзе, другі—уніз спускаецца.

Раптам плюхнула вада, і нечае чорнае цела, пускаючы бурбалкі, апусцілася на дно.

Зараз-жа ўсе сабраліся на яго паглядзець—прыплылі трытоны, прыбеглі карасікі, папаўзлі ўніз смаўжы.

І праўда было на што паглядзець: чорны быў у панцыры—ад кончыка вусоў да кончыка хваста. Гладкія латы ахаплялі яго грудзі і спіну. З-пад цвёрдага панцыра на тоненькіх саломінках высоўваліся два нерухомыя вокі, доўгія простыя вусы тырчэлі ўперад як пікі. Чатыры пары тонкіх ног былі як вілачкі, дзве клешні—як дзве зубатыя ляпы.



*Жыхары сажалкі з цікавасцю лезлі бліжэй да рака.*

Ніхто з жыхароў сажалкі яшчэ ні разу ў жыцці не бачыў рака, і ўсе з цікавасцю лезлі бліжэй да яго. Рак варухнуўся—усе напалохаліся і адсунуліся далей. Рак падняў пярэднюю ножку, ухапіў вілкамі сваё вока, выцягнуў саломінку і давай чысціць.

Гэта было так дзіўна, што ўсе зноў палезлі на рака, а адзін карасік нават наткнуўся на яго вусы.

Рраз!—рак схапіў яго клешняй і дурненькі карасік разляцеўся папалам.

Напалохаліся рыбкі і карасікі, разбегліся хто куды. А галодны рак спакойна ўзяўся за яду.

Добра стала жыць раку ў сажалцы. Цэлымі днямі ён адпачываў у багне. Начамі поўзаў, ашчупваў вусамі дно і траву, хапаў клешнямі ціхаходаў-смаўжоў.

Трытоны і карасікі баяліся цяпер яго і блізка не падпускалі да сябе. Ды яму давволі было і смаўжоў: ён з'ядаў іх разам з хаткамі і панцыр яго толькі мацнеў ад такой яды.

Але вада ў сажалцы была гнілая, тухлая і яго па-ранейшаму цягнула туды, дзе ракі зімуюць.

Раз увечары пачаўся дождж. Ён ліў усю ноч, а к раніцы вада ў сажалцы паднялася, вышла з берагоў. Струмень падхапіў рака і панёс яго прэч з сажалкі, ткнуў у нейкі корч, падхапіў зноў і скінуў у канаву.

Рак зарадваўся, расправіў шырокі хвост, захлопаў ім па вадзе і задам, задам, як поўзаў, паплыў.

Але дождж перастаў, канава стала мелкай—плысці стала дрэнна, рак папоўз.

Поўз ён доўга. Удзень адпачываў, а ўночы зноў поўз далей. Першая канава завярнула ў другую, другая ў трэцюю, трэцяя ў чацвертую,—а ён усё поўз, поўз і ўсё ніяк не мог нікуды прыпаўзці, выбрацца з сотні канаў.



... пераламалася ракава клешня напалам.

На дзесяты дзень дарогі ён забраўся, галодны, пад нейкую карчагу і стаў чакаць, ці не прапаўзе міма смоўж, ці не праплыве рыбка або жаба.

Вот сядзіць ён пад карчагай і чуе: булдых! штосьці цяжкое ўпала з берагу ў канаву.

І бачыць рак: плыве да яго мардасты звер з вусамі, з кароткімі лапамі, а ростам з кацянё.

Другім часам рак напалохаўся-б, уцёкбы ад такога звера. Але голад—не цётка, чым-небудзь трэба напоўніць жывот.

Прапусціў рак звера міма сябе, ды цоп яго клешняй за тоўсты, валасаты хвост. Думаў адрэжа, як нажнамі. Але вышла не так. Звер—а гэта быў вадзяны пацук,—як рване, і лягчэй птушкі вылецеў рак з пад карчагі. Махнуў пацук хвастом у другі бок—трах!—і пераламалася ракава клешня напалам.

Упаў рак на дно і ляжыць. А пацук далей паплыў з яго клешняй на хвасце. Добра яшчэ, што ён не хапіў рака сваімі страшнымі зубамі; не памог-бы яму і моцны панцыр.

Папоўз рак далей з адной клешняй.

Знайшоў водарaслі і паеў іх.

Потым трапіў у іл. Рак засунуў у яго свае лапкі-вілкі і давай імі варушыць. Левая задняя лапка абмацала і схапіла ў іле чарвяка. З лапкі ў лапку, з лапкі ў лапку, з лапкі ў лапку—і адправіў рак чарвяка сабе ў рот.

Падмацаваўся і папоўз далей.

Цэлы месяц ужо цягнулася падарожжа па канавах, ужо быў верасень месяц, калі рак раптам адчуў сябе дрэнна, гэтак дрэнна, што не мог паўзці; і стаў ён хвастом пясок у беразе капаць. Толькі паспеў выкапаць сабе норку ў пяску, як пачало яго курчыць.

Рак ліняў. Ён упаў на спіну, хвост яго то выпростваўся, то сціскаўся, вусы торгаліся. Потым ён разам выцягнуўся—панцыр яго лопнуў на жываце,—і з яго палезла ружавата-карычневае цела. Тут рак моцна таргануў хвастом—і выскачыў сам з сябе. Мёртвы вусаты панцыр выпаўз з норкі. Ён быў пусты, лёгкі. Моцным цячэннем яго пацягнула па дне, падняло, панесла.

А ў глінянай норцы астаўся ляжаць жывы рак—такі мяккі і слабенькі цяпер, што смоўж мог-бы праткнуць яго сваімі кволымі ножкамі.

Дзень праходзіў за днём, а ён усё ляжаў без руху. Патроху цела яго стала цвяр-



*Рак выскачыў сам з сябе.*

дзець, зноў пакрывацца цвёрдым панцырам. Толькі цяпер панцыр быў ужо не чорны, а чырвона-карычневы.

І вось цуда: адарваная пацуком клешня хутка пачала адрастаць зноў.

Рак вылез з норкі і з новымі сіламі адправіўся ў дарогу—туды, дзе ракі зімуюць.

З канавы ў канаву, з ручая ў ручэй, поўз цярплівы рак. Панцыр яго чарнеў. Дні, станавіліся карацейшымі, ішлі дажджы, на вадзе плавалі лёгкія залатыя чаўночкі апаўшыя з дрэў лісты. Уначы вада пакрывалася хрупкім лядком.

Ручэй уліваўся ў ручэй, ручэй бег да ракі.

Плыў, плыў па ручаях цярплівы рак— і нарэшце трапіў у шырокую раку з гліняными берагамі.

У крутых берагах пад вадою ў некалькі паверхаў норкі, норкі, норкі—як гнёзды ластавак зверху над вадою, у абрыве. І з кожнай нары рак глядзіць, варушыць вусамі, пагражае клешнямі.

Цэлы рачыны горад.

Зарадаваўся рак-падарожнік. Знайшоў у беразе вольнае месца і выкапаў сабе ўтульную норку-пячурку. Наеўся да адказу і залёг зімаваць як мядзведзь у бярлогу.

Ды ўжо і час быў: снег падаў, вада замярзала. Заткнуў рак уваход у норку сваёй вялікай клешняй—паспрабуй, сунься да яго!

І заснуў.

Так і ўсе ракі зімуюць.




У ляску, ў снягу глыбокім,
За сцяною дрэў,

Зайчык шэры, касавокі,
Пад кустом прысеў.

Ой, памерзлі яго ножкі,
І шчымяць, шчымяць!

А тут снежныя дарожкі
Трэба пракладаць.

Ды пры гэтым і за скуру
Цэлы дзень дрыжы,—

Зазяваешся дзе, здуру,
Зірк—ліса бяжыць.

Ой хавайся, зайка, хутка!
Любіць ліс цябе...

Як прапусціш ты мінутку—
Не ўцячы табе...

Пойдзеш, мілы, на спажыву
Хітраму звярку...

Не паскачаш, баязлівы,
У густым ляску.

А. КРОТ

# АСЁЛ — СУДДЗЯ

персідская казка



Рыс. В. ЦІХАНОВІЧА

Аднаго разу мула* сказаў свайму вучню:

— Ты быў аслом, а я зрабіў цябе чалавекам!

Гэта пачуў праставаты селянін і на другі дзень прывёў да мулы свайго асла, даў муле грошай і папрасіў:

— Зрабі і майго асла чалавекам!

Хітры мула ўзяў асла і грошы і сказаў селяніну зайсці праз некалькі дзён.

Вось селянін прышоў у вызначаны дзень і мула сказаў яму

— Ты прышоў вельмі позна. Твой асёл ужо стаў чалавекам, навучыўся навукам і цяпер яго зрабілі суддзёю ў суседнім горадзе. Пайдзі і забяры яго да сябе.

Селянін узяў вуздэчку і сядло ды пайшоў шукаць свайго асла.

Суддзя, важны і тоўсты, сядзеў пад дрэвам і слухаў нейкую справу. Селянін здалёку паказаў яму жменю сена і паманіў:

— Хадзі сюды!

Суддзя пачырванеў ад злосці і крыкнуў:

— Што гэта за асёл?

— Як! Гэта-ж ты мой асёл, а цяпер прыкідваешся, што нічога не ведаеш.

Суддзя, баючыся насмешак, даў селяніну шмат грошай, каб ён толькі нічога нікому не гаварыў.



* Магаметанскі поп.

# Піянерка Валя



*Апавяданне* П. РУНЦА

*Рысункі* В. ЦІХАНОВІЧА

## I

Адыходзячы на работу, маці яшчэ раз напомніла Валі:

— Глядзі-ж, дачушка, не забудзься асачыць курыцу, а то і сёння яйцо згубіць.

— Не, не забудуся,—лагодна адказала Валя.

Шэрая чубатая курыца, аб якой так клапацілася матка, цяпер у хаце. Калі яе пасадзіць пад рэшата, яна не хоча несціся, а выпусціш на волю, дык толькі яе і бачыў: раптам знікне. У курыцы, відаць, ёсць аблюбаваная мясцінка, і Валі трэба яе знайсці.

Праз некаторы час Валя выпускае курыцу на двор і ўважліва наглядае за ёю. Адышоўшыся ад ганку, курыца спыняецца, узнімаецца на тонкіх калматых ножках і задаволена махае крыллямі. Потым, азіраючыся, праходзіць двор, спрытна пералятае загарадкі і цераз грады спяшаецца на гумно.

„Пачакай-жа, нягодная, не ўцячэш ты сёння ад мяне“,—думае русавалосая Валька.—„Я асачу, дзе ты нясешся“.

Раней чым зайсці ў гумно, чубатка прыпынілася, пільна, нібы злодзей аглянулася. Не заўважыўшы нічога падазронага, яна хутка ўваходзіць у адчыненыя дзверы.

„Дык вось дзе ты хаваешся“, думае Валя. Умомант яна саскоквае з загарадкі і ціхенька ідзе ўслед за курыцай на ток. Чубаткі нідзе не відаць. Валя аглядаецца. У другой палавіне зложана сена, яна напэўна там,— мільгае думка ў Валі. Раптам трывожнае: ку-дах-дах-дах!..—упэўнівае яе ў гэтым.

Валя ўзлазіць на пахучае сена. Яна спадзяецца знайсці кучу яек, але нечакана на вочы трапляе кудлаты незнаёмы чалавек у чорнай паношанай рубашцы. Ён, відаць, толькі што прачнуўся ад курынага кудахтання і, абапёршыся на рукі, спалохана ўглядаецца цяпер у Валін твар.

Ад неспадзяванай сустрэчы Валя міжвольна скаланулася і вытрашчыла вочы. Хто ён? Чаго ён тут? Што яму трэба? Яна ступіла шаг назад, але незнаёмы грозна сказаў: „Пачакай!“ і здаравеннай ручышчай схапіў Валю за руку.

— Мяне ты ведаеш?—пытае ён прыцішана.

— Не, не ведаю.

— Та-ак. Не трэба і ведаць. Я кажу сур'ёзна. Што? Маўчы, нідзе нікому не расказвай, што бачыла мяне. Нават бацькам. А не—дык жыць табе больш не прыдзецца.—Ён выцягнуў з кішэні новенькі блішчасты рэвольвер і грозна запытаў:— Ты бачыла такую штучку? не бачыла? Дык вось ведай—націсну гэты курок і цябе не будзе ў жывых. А цяпер вазьмі яйкі ды

ідзі. І больш сюды сама не прыходзь і курыцы не пускай.

— Не пайду і не пушчу,—дрыжучы адказвае Валя і хуценька спаўзае з сена на ток.

## II

Прыбегшы дадому, Валька задумваецца. Хто-б гэта мог быць? Сваіх калгаснікаў яна ведае ўсіх, хоць калгас не маленькі. Можа, злодзей? Але чаго-ж ён будзе тут сядзець удзень? Дык хто-ж тады? І потым міжвольна ўспомнілася ёй бацькава гутарка „Кажуць, у нашым сельсовеце хаваецца шпіён з-за мяжы. Трэба яшчэ лепш да кожнага незнаёмага чалавека прыглядацца“.

„Так, так, гэта і ёсць той шпіён, пра якога казаў бацька і якога шукаюць пагранічнікі,—вырашае Валя.—Вось чаму пужаў ён рэвольверам, баяўся, каб я нікому не сказала“,—здагадваецца яна.

Ён! Ён! Што-ж рабіць?—паўстала пытанне. Пачакаць, пакуль прыдуць калгаснікі з поля? Нельга, вораг можа ўцячы. А хто ведае, што будзе вытвараць гэты драпежнік на волі. Пойдзе забіваць лепшых людзей, падпальваць калгасы, збіраць і перадаваць за мяжу сакрэтныя звесткі аб нашай краіне...

Не трацячы ні хвіліны, Валя куляй вылятае з хаты.

У праўленні калгаса бабка Наста падмятала падлогу. Раптам расчыніліся дзверы і ўбегла Галька.

— Дзе старшыня?—крыху адсопшыся, запытала яна.

— На поле паехаў.

— А рахункавод?

— Рахункавод у раёне,—разагнуўшыся адказала бабка.

Валя атарапела: яе планы разбіты. У калгасе нікога няма з дарослых мужчын і тут—пуста. Што рабіць цяпер? І ў той час, калі яна вось-вось гатова была заплакаць ад расчаравання, яе вочы заўважылі на сцяне тэлефон. Адразу палягчэла на сэрцы. Сама Валя ніколі не гаварыла па тэлефону, але ведала, што гэта за штука. Яна падбягае да тэлефона і... застывае на месцы.

— Бабка, мне трэба пазваніць. Як гэта?

Бабка Наста выратоўвае Валю. Ёй гэтая штука ўжо добра вядома. Кульгаючы, яна падыходзіць да апарата і доўга звоніць. А калі на тэлефоннай станцыі адказалі, яна дала трубку ў рукі Валі.

— На гавары.

Дрыжачымі рукамі схапіла Валя чорную як люлька трубку і паднесла да вушэй. І калі здалёку пачуўся голас: „адкуль?“, яна, хвалюючыся, скоранька загаварыла:

— З калгаса „Прамень соцыялізма“. Мне начальніка пагранатрада трэба.

Праз момант у трубцы пачуўся мужчынскі голас.

— Гэта таварыш начальнік? Гаворыць піонерка Валя Смольская. Я ведаю, дзе хаваецца шпіён. Скарэй прыязджайце!

Голас у трубцы абрываецца. Толькі пачула яна: „Маўчы, нікому ні гуку“.

А праз поўгадзіны трое пагранічнікаў вялі звязанага шпіёна па вуліцы вёскі.



# АБ ЧЫМ МОЖА РАСКАЗАЦЬ ЯЛОВАЯ ШЫШКА



*Гэтую шышку еў дзяцел.*

І белка, і клест, і дзяцел, і мыш, лесавая палёўка, ядуць зімою шышкі. І ўсё-такі заўсёды можна, глянуўшы на шышку, сказаць, хто яе еў, бо кожны есць пасвойму.

Белка абгрызае ўсе чашуйкі, пакідае толькі голы стрыжань.

Клест есць шышку неахайна, выцягне некалькі семачак, а потым кідае.

У дзятла звычайна ў дрэве збудавана цэлая кузня. Ён загоніць у шчыліну дрэва шышку, з'есць семачкі, а потым ляціць па новую. Звычайна пад такою кузняю шмат шышак, і ўсе яны разбіты.

Мышы пад снегам грызуць шышкі, якія ўпалі на зямлю яшчэ ўвосень. Яны абгрызаюць толькі верхнія чашуйкі.

Іншы раз пачне есці шышку клест і скіне яе з дрэва, потым на зямлі есць белка, а скончыць мыш. І пра ўсё гэта можна даведацца па адной шышцы, расказаць, хто над ёю працаваў.

**А. Формазаў.**





*Левую шышку ела спачатку белка, потым мыш. Сярэднюю пагрызла мыш. Правую белка абгрызла.*

# ЗАГАДКІ

1. З якой пасуды не п'юць і не ядуць?
2. У агні не гарыць і ў вадзе не тоне.
3. Хто тчэ без станка і рук?
4. Без языка, а крычыць, ніхто яго не бачыць, а ўсякі чуе.
5. Адзін кажа—мне зіма лепш, другі кажа—мне лета лепш, а трэці кажа—мне ўсёроўна.
6. Коціцца катушка, ні звер, ні птушка, ні камень, ні вада, а ну—адгадай!
7. Сем варот у адзін гарод.

Загадкі запісаў

**С. Каўшырка.**

Адгадкі знайдзі сярод наступных слоў: **лёд; рэха; з пустой; сані, калёсы і конь; галава; сонца.**

*Дзе падзеліся белкі і цецерукі? Дапамажыце паляўнічаму знайсці іх.*


ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДВБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

СНЕЖАНЬ 1936 г. № 12

ЦАНА 30 кап.

# дзіўнае люстэрка



*— Ніколі не ведаеш, адкуль прыдзе бяда.*



*— Што рабіць?*



*— Давай хіба я выб'ю астатняе.*



*— Няўжо я свайго бацьку на памяць не нарысую?*



*— Як жывы!*



*— Дзіўнае люстэрка! Чаму яно адлюстроўвае другі гальштук?*

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ  Афармленне ЦІХАНОВІЧА  Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна  20000 экз.  Зак. № 1285.  Галоўлітбел № 5617.